№ 67 (4114)

30 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЎМАРАФОН-2016

## Колькі заробіць на дыстанцыі міністр спорту?

*Прызавы фонд спартыўнага мерапрыемства, якое пройдзе 4 верасня, складае 25 тысяч долараў.*

Мінскі паўмарафон набірае папулярнасць, і ўвага да яго – адпаведная. Напрыклад, у мінулым годзе ў забегу афіцыйна бралі ўдзел больш за 16 тысяч чалавек (паводле зводак МУС – каля 19 тысяч). Зараз арганізатары паставілі перад сабой задачу сабраць 20 тысяч удзельнікаў.

І нават грашовыя ўнёскі не палохаюць аматараў бегу. За прабег на дыстанцыі 5,5 км трэба заплаціць 7 беларускіх рублёў, за 10,55 км і 21,097 км – 18 еўра. Праўда, для школьнікаў, студэнтаў, пенсіянераў святочная прабежка будзе па-ранейшаму бясплатнай.

Але і зарабіць на паўмарафоне пры жаданні можна. Галоўнае – быць на сяброўскай назе са спортам. У гэтым годзе спонсары мерапрыемства абвясцілі, што яго прызавы фонд складае 25 тысяч долараў. Напрыклад, за перамогу на дыстанцыі 21,097 км удзельнік атрымае 3 тысячы долараў, на 10,55 км – 500 долараў, на 5,5 км – 50 "зялёных". Акрамя таго, тысячу долараў дадаткова атрымае яшчэ і той, хто паставіць на трасе новы рэкорд.

Паглядзім, колькі грошай "набегаюць" нашы чыноўнікі альбо той жа міністр спорту **Аляксандр Шамко**, які яшчэ і сам нядаўна ўважліва сачыў за выступленнем беларускіх алімпійцаў на Гульнях у Рыа.

Дарэчы, акрамя спартыўнага міністра ў забегу плануюць узяць удзел і іншыя вядомыя ў краіне людзі: памочнік прэзідэнта па справах фізкультуры і спорту **Максім Рыжанкоў**, прэс-сакратар кіраўніка краіны **Наталля Эйсмант**, міністр адукацыі **Міхаіл Жураўкоў**, бізнесмены і артысты.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НАПЯРЭДАДНІ



Перадсвяточны марафет.

## Горад проста не пазнаць!

*4 верасня ў Рагачове пройдзе Дзень беларускага пісьменства. «Народная Воля» пацікавілася, як там падрыхтаваліся да свята.*

Варта заўважыць, што ацэнкі розныя. Так, напрыклад, віцэ-прэм'ер Наталля Качанава адзначае, што ў Рагачове праведзена каласальная работа: абноўлены важныя сацыяльныя і культурныя аб'екты. «*Горад проста не пазнаць!*» – сказала яна.

А вось у мясцовай прэсе сустракаліся і негатыўныя водгукі. Маўляў, цэнтр Рагачоваператварылі ў вялізную будаўнічую пляцоўку, а пра ўскраіны проста забыліся.

«*Цэнтр Рагачова сапраўды не пазнаць, зроблены капітальны рамонт дарогі*, – паведамляў сайт vrogacheve.ru. – *Ужо трэці месяц задзейнічана неверагодная колькасць будаўнічай спецтэхнікі. Яна працуе нават у выхадныя дні. Відавочна, што запланаваныя будаўнічыя работы будуць выкананы ў тэрмін. Тым часам уся падрыхтоўка да Дня пісьменства ўсё больш нагадвае ператварэнне горада Рагачова ў пацёмкінскую вёску. Раён СГТ і мікрараён «Карэя» літаральна ў руінах. Раён чыгуначнага вакзала – наогул асобная размова!*

*Узнікае справядлівае пытанне: для каго робіцца ўся гэтая «маштабная» будоўля? Проста для гасцей, каб паказаць ім, як у горадзе Рагачове ўсё добра, або для людзей? Калі ўсё робіцца для людзей, то навошта нам гэтая мадэрнізаваная дарога на пару вуліц у цэнтры горада, калі крок управа, крок улева – развалiны? Людзі пастаянна жывуць без вады, а калі вада з'яўляецца, то па колеры нагадвае квас. Навошта было закочваць мільярды рублёў у асфальт, калі абяцаная яшчэ ў 2012 годзе дэпутатам Шчэпавым дарога, якая злучае 3-і мікрараён і СГТ, не з'явілася да гэтага часу!*

*Так для каго гэты Дзень пісьменства?*»

### Толькі лічбы

Як паведамляла прэс-служба Гомельскага аблвыканкама, на падрыхтоўку інфраструктуры Рагачова да Дня беларускага пісьменства з абласнога і раённага бюджэтаў выдзелена больш за 40 мільярдаў беларускіх рублёў (недэнамінаваных).

У прыватнасці, сродкі пайшлі на замену цеплавых сетак, бягучы і капітальны рамонты жылых дамоў, замену і рамонт аўтобусных прыпынкаў, рэканструкцыю высакавольтных ліній, рамонт гарадскога фантана. Па асобным плане з аўтаномным фінансаваннем вяліся будаўніча-мантажныя работы на прылеглых да горада рэспубліканскіх аўтамагістралях, рамонт дарожнага пакрыцця гарадскіх вуліц.

### Кніга ў падарунак

4 верасня ў Рагачове адкрыецца абноўлены Дом кнігі з кнігарняй «Першацвет», бібліятэкай і чытальняй. На ўрачыстасцях адкрыюць барэльеф Уладзіміра Караткевіча і прысвояць імя пісьменніка Дому кнігі.

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства таксама адбудзецца ўручэнне літаратурнай прэміі. Лепшых аўтараў вызначаць у сямі намінацыях. Пераможцам уручаць памятныя знакі-сімвалы, дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

А на ўрачыстай цырымоніі Дня беларускага пісьменства госці свята будуць дарыць Рагачову свае любімыя кнігі. Сабраную літаратуру перададуць у бібліятэчны фонд райцэнтра.

Плануецца, што ў кантэксце свята пройдзе міжнародны "круглы стол" пісьменнікаў, у якім возьмуць удзел прадстаўнікі Азербайджана, Вялікабрытаніі, Кітая, Казахстана, Кыргызстана, Сербіі, Славакіі і іншых краін.

ГРОШЫ

## Еўра знізіўся, долар умацаваўся

*Учора на Беларускай валютна-фондавай біржы прайшлі чарговыя валютныя таргі.*

Паводле іх вынікаў курс долара вырас з 1,9511 да **1,9574** беларускага рубля, курс еўра знізіўся – з 2,2022 да **2,1897** рубля.

Знізіўся і курс расійскай валюты: 100 расійскіх рублёў цяпер каштуюць **3,0091** беларускага рубля (у пятніцу – 3,0156).

Беларускі рубель умацаваўся да кошыка валют на 0,16%.

ЗА ПАРТАЙ

## У школу і тэатр – адначасова!

1 верасня Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі спецыяльна да Дня ведаў ладзіць паказ "Адвечнай песні" Янкі Купалы.

Штогод у першы дзень восені праводзіцца культурна-адукацыйная акцыя, прысвечаная Міжнароднаму дню ведаў. Ва ўсіх установах агульнай сярэдняй адукацыі ладзяцца тэматычныя і гасцявыя ўрокі. РТБД не застаецца ўбаку, таму 1 верасня ў 11.00 вучні 11-х класаў устаноў адукацыі Цэнтральнага раёна г.Мінска ўбачаць спектакль-візітоўку РТБД – «Адвечная песня» Янкі Купалы ў пастаноўцы Сяргея Кавальчыка. Гэты ўрок распачне гадавы праект «Культурная спадчына: традыцыі і сучаснасць», у рамках якога на працягу навучальнага 2016–2017 года пройдзе шэраг культурна-адукацыйных мерапрыемстваў.

Дадзены праект рэалізуецца РТБД сумесна з Камітэтам па адукацыі Мінгарвыканкама.

ЧУЛІ?

## На чарговы тэрмін не пайшоў…

Беларускі праваабаронца, былы палітвязень **Алесь Бяляцкі** завяршыў свае паўнамоцтвы ў якасці віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека па выніках трэцяга тэрміну на гэтай пасадзе.

Сваю кандыдатуру на чарговых выбарах арганізацыі, якія адбыліся на 39-м кангрэсе FIDH, што прайшоў днямі ў Іаханэсбургу, праваабронца не выстаўляў.

УРАДЖАЙ-2016

## Няблага!

Лічы, жніво завершана. Засталося толькі ўбраць кукурузу на зерне.

У амбарах і на элеватарах амаль 7 мільёнаў тон збожжа. Ураджайнасць па краіне – 33,5 цэнтнера з гектара. Няблага! Крыху менш, чым у мінулым годзе, але ж запасы папоўняцца кукурузай, якая сёлета амаль паўсюль добра ўрадзіла.

Больш за ўсіх – звыш 1 мільёна 800 тысяч тон зерня – намалацілі вяскоўцы Мінскай вобласці.

Самымі ўраджайнымі аказаліся палеткі Гродзенскай вобласці – на круг выйшла па 37 цэнтнераў.

**Надзея СКУРАТОВІЧ.**

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

## Будет ли милиция закрывать глаза на фальсификации во время выборов?

Активисты Объединенной гражданской партии и оргкомитета по созданию БХД предложили министру внутренних дел **Игорю Шуневичу** издать специальный приказ для милиционеров, которые будут дежурить на избирательных участках во время досрочного и основного голосования на парламентских выборах. По мнению подписантов, такой документ помог бы предотвратить возможные фальсификации на избирательных участках.

«*В связи с тем, что во время избирательных кампаний наблюдателями неоднократно выявлялись случаи фальсификации выборов, манипуляций с голосами избирателей во время подсчета бюллетеней, вброса бюллетеней в ящики для досрочного голосования и голосования по месту жительства, возникают вопросы относительно деятельности сотрудника милиции, охраняющего избирательный участок и ящики для голосования*, – сказано в обращении. – *В настоящее время сотрудник милиции, обеспечивающий охрану избирательных участков и ящиков для голосования, не нацелен на предупреждение и пресечение преступления, предусмотренного ст. 192 УК РБ «Нарушение законодательства о выборах, референдуме, об отзыве депутата и о реализации права законодательной инициативы граждан».*

*Это вызвано тем, что, заступая на дежурство, сотрудник получает указания, которые фактически переводят его в подчинение председателя избирательной комиссии. Таким образом, должностное лицо правоохранительных органов вместо пресечения уголовных преступлений (фальсификаций выборов) – фактически их обеспечивает, становясь невольным соучастником. Эту порочную, унизительную для любого сотрудника практику нужно прекратить.*

*Для этого необходим соответствующий приказ министра внутренних дел, опубликованный в СМИ, в котором отдельным пунктом будет звучать требование принять все меры для пресечения преступлений, предусмотренных ст.192 УК РБ, а в случае выявления преступления незамедлительно возбуждать уголовные дела в отношении виновных лиц. Это позволит сотрудникам в полной мере выполнить свои обязанности и, безусловно, будет способствовать повышению доверия к милиции в целом.*

*Требуем также провести тщательное расследование по всем заявлениям о фальсификациях во время президентских выборов в 2015 году и наказать должностных лиц, причастных к укрывательству преступлений*».

Ответ из Министерства внутренних дел авторы обращения получили, как и требуется по закону, через две недели. Правда, подписан он не министром Шуневичем, а временно исполняющим обязанности начальника управления охраны правопорядка МВД А.Н.Жилинским.

«*По существу доводов, содержащихся в обращении*, – говорится в ответе, – *полагаем необходимым сообщить, что, согласно статье 22 Закона Республики Беларусь от 17 июля 2007 года «Об органах внутренних дел Республики Беларусь», выявление и пресечение преступлений и административных правонарушений является обязанностью территориальных органов внутренних дел (далее – ОВД), которые в рамках возложенных на них полномочий реагируют на поступающие заявления и сообщения о преступлениях и административных правонарушениях, в том числе связанные с нарушениями законодательства о выборах.*

*По всем поступившим в ОВД обращениям, связанным с выборами в 2015 году, было организовано проведение проверок и информирование заинтересованных в порядке, установленном законодательством.*

*По вопросам, касающимся организации избирательного процесса на участках для голосования, Вы вправе обратиться в соответствующие избирательные комиссии по территориальности*».

«Самая настоящая отписка», – прокомментировал ответ из МВД один из подписантов обращения, активист ОГП подполковник милиции в запасе **Николай Козлов**.

На парламентских выборах в 2008 году Николай Козлов, тогда действующий сотрудник милиции, нес дежурство на одном из столичных избирательных участков и, как он утверждал, стал свидетелем фальсификации: по его словам, члены комиссии вбрасывали в урну для голосования «левые» бюллетени, когда участок был закрыт. Подполковник Козлов обнародовал этот факт, но власти, закрыв глаза, сделали всё, чтобы спустить это на тормозах.

Николай Козлов убежден, что руководство МВД прекрасно понимает, о чем идет речь: сотрудники милиции на время выборов фактически подчинены председателям избирательных комиссий, они ничего не могут предпринять, даже видя фальсификации, потому что им якобы запрещено «мешать работе комиссий». И получается, что они вовлечены в это уголовное деяние, сами того не желая.

– Мы поставили вопрос прямо: милиция должна служить закону, народу, а не фальсификаторам выборов, – говорит Н.Козлов. – И действительно, почему бы министру Игорю Шуневичу не издать по этому поводу специальный приказ? Его подчиненный дал формальный ответ. С моей точки зрения, он свидетельствует о том, что милиция как закрывала глаза на фальсификации во время выборов, так и будет закрывать.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

## Три машины из рук Колдуна

*В Минске разыграли призы от сети супермаркетов "Евроопт".*



Наш народ, оказывается, любит выигрывать. Впрочем, грех его в этом упрекать. В ситуации, когда цены в магазинах растут каждый день, а зарплаты и пенсии остаются практически без изменений, кто откажется от бесплатных подарков? Особенно когда речь идет о новом автомобиле от "Евроопта".

Напомним, что сеть супермаркетов объявила рекламную игру "Удача в придачу!". На выходных проходил уже ее 14-й тур. Согласно правилам, с 13 до 26 августа надо было сделать покупку в любом магазине "Евроопт" или в интернет-гипермаркете "Е-доставка" на сумму не менее 10 рублей (табачные, алкогольные и безалкогольные напитки не учитывались). Среди покупок должен был быть один из так называемых "товаров удачи" (в 14-м туре это кофе Jacobs, продукция Gallina Blanca, Mr. Ricco и Rikki). Также было необходимо использовать дисконтную карту "Е-плюс". За каждые 10 рублей участник получал игровой код. Всего в игре приняло участие около 281 тысячи участников, которые получили 1 миллион 445 тысяч кодов.

Организаторы и киношники (прямая трансляция церемонии шла по "НТВ-Беларусь", а запись в тот же день показывалась по ОНТ) заняли практически весь холл торгово-развлекательного центра. За тем, чтобы по бокам все время оставался свободный проход, следили охранники гипермаркета. На площадке, которая попадала в кадр, разместились музыкальный коллектив LIPNITSKY SHOW ORCHESTRA, массовка, которая отвечала за аплодисменты, руководство "Евроопта", а также ведущие **Дмитрий Шунин** *(на фото слева)* и **Георгий Колдун**, которые разыгрывали призы.

Пикировка ведущих чуть освежала достаточно рутинную процедуру розыгрыша. "*Георгий, вы появились в историческом эфире*", – пошутил Шубин. "*А вы были еще в доисторическом*", – парировал тот. Колдун-старший прошелся и во внешнему виду своего партнера. "*Ваш пиджак куплен на школьном базаре. Со скидкой*", – подтрунивал он над Шуниным. Впрочем, скорее всего остроты были прописаны в сценарии. Хотя один раз произошел небольшой форс-мажор. Колдун оговорился, и присутствующие услышали не о четвертой секции, а о "*сексии*". Несколько девушек довольно хихикнули, подумав о чем-то своем.

Разумеется, запись передачи не могла обойтись без счастливых зрителей. Одним из них сотрудники "Евроопта" предложили стать и корреспонденту "Народной Воли". Но перспектива махать желтыми, красными и белыми воздушными шарами ради того, чтобы за этим занятием тебя увидела вся страна, не очень-то прельщала. Впрочем, желающих хватало и без меня. "*Смотри, там сам Колдун! Пошли посмотрим!*" – тянула за рукав девушка свою подругу.

В этот раз удача улыбнулась **Александру Атюху** из Смолевичей, которому достался изумрудный Renault Duster, **Виктории Козел** из Гомеля (она будет ездить на небесно-голубом Renault Sandero) и **Юлии Агафоновой** из Бобруйского района (она выиграла алую Mazda CX-5).

"*Ладно, повезет в следующий раз*", – говорила одна из посетительниц центра своим детям, двигаясь к выходу. В это время по центру "Е-сити" разносилась песня Георгия Колдуна "Я так устал от этих многоточий". Если честно, голос звучал не очень сильно. Зато исполнение символизировало всю церемонию: все было интересно и честно.

**Денис МАРТИНОВИЧ.**

Фото www.evroopt.by.

РЭЗАНАНС

## «Хаўтуры па літаратуры – і не толькі па ёй»

*Так называўся артыкул пісьменніка Анатоля Зэкава, змешчаны ў "Народнай Волі" 26 красавіка г.г., у якім аўтар падзяліўся сваім роздумам пра ролю нацыянальнай літаратуры і пісьменніка ў выхаванні падрастаючага пакалення, далучэння школьнікаў да чытання, закрануў праблемы аплаты творчай працы, выдання і распаўсюджвання кнігі, выказаў заклапочанасць бядотным станам беларускай мовы. Артыкул выклікаў шырокі рэзананс сярод пісьменнікаў, бібліятэкараў і настаўнікаў, пра што сведчылі тэлефонныя званкі ў рэдакцыю і непасрэдна аўтару.*

*Атрымала рэдакцыя і афіцыйныя адказы з міністэрстваў інфармацыі, культуры, адукацыі, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. Пракаментаваць іх рэдакцыя папрасіла зноў-такі аўтара артыкула.*

Пісьменнік і грамадства, пісьменнік і ўлада – гэтыя праблемы ніколі не сыходзілі з парадку дня. Ні для каго ж не сакрэт, што пісьменнік з'яўляецца своеасаблівым летапісцам і рэзанансам эпохі і яго думка адыгрывае немалую ролю ў жыцці грамадства.

Сёння ў параўнанні з савецкім часам беларускіх пісьменнікаў няма ў парламенце, яны не ўваходзяць ва ўладныя структуры (у ЦК КПБ быў нават сектар літаратуры). Ды і падзел пісьменніцкай супольнасці на два саюзы значна аслабляе творчыя высілкі майстроў пяра, размывае цэласную карціну літаратурнай прасторы. Што зрабіць, каб пісьменніцкае слова зноў загучала ў грамадстве, абуджаючы людскія душы, – адказ на гэтае пытанне я ставіў сабе на мэту, калі пісаў артыкул "Хаўтуры па літаратуры…".

Скажу адразу: афіцыйныя адказы і рэдакцыю, і мяне асабіста расчаравалі. Праўда, не было і асаблівых ілюзій наконт таго, што ўладныя структуры адразу кінуцца вырашаць узнятыя праблемы. Урэшце, гэта справа не аднаго дня. І ўсё ж былі спадзяванні, што міністэрскія чыноўнікі прызнаюць: пісьменнік насамрэч патрабуе значна большай увагі з боку дзяржавы. А заадно сур'ёзна, па-дзяржаўнаму вызначаць шляхі вырашэння той ці іншай праблемы хоць бы на перспектыву. Замест гэтага адпаведныя дзяржаўныя структуры абмежаваліся звычайнымі справаздачамі.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info 30 ЖНІЎНЯ 2016 г.

## ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Не працуе лічыльнік электраэнергіі

***Купілі кватэру, але не новую. Неяк не звярнулі ўвагі, што лічыльнік электраэнергіі не працуе. Што нам зараз рабіць? Звяртацца да былых уладальнікаў кватэры?***

**Таццяна ЗЯНЬКОВІЧ, Мінск.**

– Па-першае, трэба быць больш уважлівымі, калі робіце такія сур'ёзныя пакупкі. Але зараз вам трэба звяртацца за вырашэннем праблемы не да былых уладальнікаў жылля, а ў "Мінскэнерга". Там спецыялісты патлумачаць, што неабходна, каб адрамантаваць лічыльнік альбо замяніць яго.

### Звініць электраміксер

***Пяць месяцаў таму набыў электраміксер у адным буйным магазіне бытавой тэхнікі. Зараз апарат пачаў падчас работы звінець. Баюся, што ў адзін цудоўны момант матор і наогул зламаецца. Ці можна вярнуць тэхніку ў магазін? Чэк захаваўся.***

**Сяргей УЛАСАЎ, г.Ліда.**

– Вярнуць можна толькі праз гарантыйную майстэрню.

### Дзе праверыць вагу кавуна?

***Купіў на рынку кавун на 9 кг. Прыйшоў дадому, узважыў, аказалася, што яго вага амаль на кілаграм меншая. Ці можна на адкрытым рынку (а кавуны прадавалі з машыны) дзесьці пераправерыць вагу, каб пераканацца, што не падманулі? І што рабіць, калі падманулі?***

**Васіль ЛЕДНІК, г.Орша.**

– На кожным адкрытым рынку ў адміністратара ёсць кантрольныя шалі, дзе можна адразу праверыць вагу набытага тавару. Дарэчы, у Беларусі па законе забаронены гандаль кавунамі па-за рынкам, і санэпідэмстанцыя кантралюе гэтае пытанне. Пры парушэнні гандлю можна звярнуцца на "Гарачую лінію" Міністэрства гандлю.

### Кітайскія цацкі хутка ламаюцца

***Кітайскія цацкі (асабліва музычныя) вельмі хутка выходзяць са строю. У якія тэрміны можна абмяняць такі тавар?***

**Валянціна МУРАШКА, г.Слонім.**

– Дзіцячыя тавары абмяняць нельга.

### Машыны паркуюць на пешаходныя дарожкі

***Каля пад'езда аўтаўладальнікі нярэдка ставяць машыны на дарожку для пешаходаў, таму з дзіцячай каляскай праехаць проста немагчыма. Ці можна паскардзіцца на такіх вадзіцеляў? І ці патрэбна пры гэтым называць сваё прозвішча? З аднаго боку, і з суседзямі не хочацца псаваць адносіны, але з другога – хацелася б прывучыць людзей да культуры…***

**Алеся, Мінск.**

– Можна ананімна звярнуцца ў ДАІ, а таксама на "Гарачую лінію" ЖКГ. Гэтыя службы нясуць непасрэдную адказнасць за выкананне правілаў пражывання і паркоўкі і могуць прымяняць суадносныя меры ўздзеяння.

### На сервіснай станцыі падрапалі аўтамабіль

***Мне на сервіснай станцыі падрапалі машыну. Прапаноўваюць пафарбаваць яе, каб "адчапіўся". Мяне гэта не задавальняе, бо фактычна атрымліваецца, што ў мяне будзе ўжо пафарбаванае аўто. А гэта адаб'ецца на кошце аўтамабіля пры продажы. Што параіце мне рабіць у такой сітуацыі?***

**Леанід КРУГЛЫ, Віцебск.**

– Выстаўляйце прэтэнзію сервіснай станцыі на ліквідацыю пашкоджання (напрыклад, замену крыла) і кампенсацыю маральнага і матэрыяльнага ўрону.

### Прадавец пазычае тавар

***Ці законна тое, што прадавец у дзяржаўным магазіне пазычае майму мужу гарэлку?***

**Аксана, г.Маладзечна.**

– Законам забаронены продаж тавару ў пазыку.

### Набыла каструлю не таго аб'ёму

***Купіла ў магазіне каструлю. Калі прынесла дадому, зразумела, што па аб'ёму яна мне не падыходзіць. Ці магу я абмяняць яе на посуд большай змяшчальнасці?***

**Святлана ЛАПІЧ, Іўеўскі раён.**

– Толькі пры наяўнасці дэфекта, які будзе ўстаноўлены экспертызай.

### Вярнуць сапсаванае мяса

***Ці можна вярнуць, як мне падаецца, сапсаванае мяса ў вакуумнай упакоўцы, калі тэрміны захоўвання не выйшлі, а чэк не захаваўся?***

**Валянціна ЧАЙКА, Гомель.**

– Можна, калі маюцца сведкі пакупкі. Пры розных сітуацыях таксама можа ўзнікнуць неабходнасць пацвярджэння санэпідэмстанцыі на тое, што тавар сапсаваны.

### У тэлефоне не спадабалася фотакамера

***Купіла тэлефон, але, як аказалася, фотакамера ў ім зусім "слабая". Здымкі атрымліваюцца няякасныя. Ці магу я вярнуць тэлефон у магазін?***

**Алена ШОСТАК, г.Ліда.**

– Нельга. Вярнуць можна толькі пры наяўнасці істотных недахопаў.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Вадзім СТРАЛЬЦОЎ: «Чаму казалі пра залаты медаль? Хацелі напужаць іранца»

*Сярэбраны прызёр Алімпіяды распавёў "Народнай Волі" пра свае ўражанні ад Гульняў.*

Спартыўны лёс цяжкаатлета Вадзіма Стральцова – гэта суцэльная барацьба з самім сабой і рознымі абставінамі. Траўмы, траўмы, траўмы… Яны пераследавалі спартсмена, як быццам яго нехта сурочыў. Неаднаразова ён хацеў пакінуць вялікі спорт, нават асобныя беларускія трэнеры раілі гэта зрабіць. Не скарыўся.

У мінулым годзе штангіст стаў першым на чэмпіянаце свету. А за дзень да выступлення Вадзіма на Алімпіядзе ўсе пачулі аптымістычны прагноз галоўнага трэнера зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы Віктара Шаршукова: *"Думаю, заўтра парадуем. Цьфу-цьфу-цьфу, але чакайце першага алімпійскага чэмпіёна. Стральцоў зараз у цудоўнай форме, мы ведаем, на што ён здольны. Заўтра стане першым. Так і напішыце!"*

На жаль, на Гульнях у Бразіліі беларускі атлет стаў другім…

– Чаму казалі пра залаты медаль са стопрацэнтнай упэўненасцю? – перапытвае Вадзім. – Тактыка такая ў трэнера была, хацелі іранскага цяжкаатлета, які ў выніку і заваяваў золата, крыху напужаць. Разумееце, у спорце псіхалагічны момант мае вялікае значэнне. Напярэдадні іранец таксама выказаўся: ён, маўляў, непераможны, роўных яму няма. Вось і вырашылі нанесці ўдар у адказ. Такія прыёмы сустракаюцца і ў цяжкай атлетыцы, і ў прафесійным боксе… Дарэчы, іранец наогул быў своеасаблівым цёмным конікам. Перад Алімпіядай амаль нідзе не "свяціўся".

**– Самі на што разлічвалі?**

– На тое і разлічваў – быць першым. Ва ўсялякім разе медаль была запланавана. Але, шчыра скажу, асабіста мне выступаць у Бразіліі было вельмі складана. Цяжка прайшла адаптацыя. Спачатку, калі прыляцелі на іншы кантынент, здаецца, усё праходзіла нармальна. Прызвычайваўся да клімату, да іхняга часу. Размінаўся, трэніраваўся… Усё ў норме. Але пасля трох дзён знаходжання ў Бразіліі станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Выступаў я на пяты дзень, таму, мяркую, на расклад медалёў паўплываў і суб'ектыўны фактар.

**– Хто першым павіншаваў з "серабром"?**

– Калі казаць пра блізкіх, то, натуральна, найперш пачуў цёплыя словы ад сваёй сям'і – жонкі, бацькоў… Бабулі патэлефанаваў з Бразіліі ў вёску Гаўрылінка Касцюковіцкага раёна – гэта ж мой самы галоўны трэнер і балельшчык. Прывёз ёй, дарэчы, у падарунак бразільскі ручнік, няхай будзе на памяць пра той час, калі яе ўнук стаў сярэбраным прызёрам Алімпіяды.

**– Раней вас доўгі час пераследавалі траўмы. Не было жадання канчаткова завязаць са спортам?**

– Былі такія думкі, але не рашыўся. Столькі часу было аддадзена спорту, і сысці з яго без алімпійскай узнагароды было б паказчыкам слабасці. Перайшоў да іншага трэнера і ўсё пайшло куды лепш, чым раней.



**– Пастаянныя траўмы – чорная паласа ці збег абставін?**

– Не ведаю, што гэта… Трэніруешся гадамі, а потым за адзін дзень – хлоп! – і ўсё. Не паверыце, але крыўдна было да слёз.

**– Як вам Бразілія?**

– У мяне такое ж уражанне, як і ў астатніх нашых спартсменаў, нічога новага, напэўна, не скажу. Кажуць, што амаль палова бразільцаў наогул выступала супраць правядзення Гульняў у іх краіне. Там жа эканамічны крызіс, навошта ім гэтыя шыкоўныя фэсты?

**– Можа быць, па Рыа ўсё-такі адважыліся пагуляць?**

– Не адважыўся, бо не хацеў рызыкаваць сваім здароўем і гаманцом. Былі ж выпадкі, калі "адважных" алімпійцаў рабавалі наўпрост на вуліцах.

**– Сярэбраны прызёр Алімпіяды ў вагавай катэгорыі да 94 кілаграмаў, напэўна, здолеў бы сябе абараніць.**

– Ведаеце, ёсць такі стары выраз: супраць лому няма прыёму. Што можа зрабіць спартсмен супраць нажа альбо, не дай Божа, пісталета? Думаю, ніякія турыстычныя прагулкі не вартыя такой рызыкі. Таму медаль заваяваў, а прыгоды мне былі непатрэбныя.

**– Вадзім, калі ведаеце, антыдопінгавыя ўлады ўсур'ёз вырашылі ўзяцца за цяжкую атлетыку і нават паступаюць прапановы выключыць яе з алімпійскай праграмы. Што можаце сказаць у абарону свайго віду спорту?**

– Да 2020 года цяжкую атлетыку ў любым выпадку не выключаць, а затым… Мне здаецца, гэта нейкі перагіб. Што, у лёгкай атлетыцы менш спартсменаў трапляюцца на допінгу? Але ж ніхто не кажа пры адлучэнне Каралевы спорту ад Алімпіяд, бо самі Гульні тады згубяць сэнс і прывабнасць. Ды і цяжкая атлетыка – даволі цікавы для гледачоў від. Нашы спаборніцтвы – гэта заўсёды драма, перажыванні, новыя рэкорды і неверагодныя эмоцыі.

**– Вас бразільская публіка падтрымлівала?**

– Яшчэ як! Так пляскалі ў далоні і крычалі, што вушы закладвала. Пры гэтым балельшчыкі такія добразычлівыя, што падтрымлівалі ўсіх.

**– Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі цяжкай атлетыкі заявіў, што зборныя Расіі, Казахстана і Беларусі з-за антыдопінгавых парушэнняў будуць дыскваліфікаваны на адзін год пасля Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра.**

– І гэты крок, як мне падаецца, няправільны. Па-першае, пачынаюць пераправяраць допінг-пробы спартсменаў васьмігадовай даўніны. Для чаго ўсё гэта? Давайце тады ўсіх пераправяраць, пачынаючы з мінулага стагоддзя. Колькі там часу пробы захоўваюцца? І не трэба грэбці ўсіх пад адзін грэбень. Так, допінгавыя пробы некаторых беларускіх цяжкаатлетаў далі станоўчы вынік. Але, напрыклад, пры чым тут я? Чалавек, у якога на працягу ўсёй спартыўнай кар'еры бралі пробы на допінг, але яны заўсёды давалі адмоўны вынік. А мяне зараз збіраюцца на год дыскваліфікаваць. За што? Скажыце, ёсць тут нейкая логіка? Аля няхай робяць тое, што хочуць. Я ж на гэта не магу нейкім чынам паўплываць.

**– Колькі ў вас допінг-проб бралі ў гэтым годзе?**

– Здаецца, дзве. Вясной прадстаўнікі антыдопінгавага агенцтва наведаліся ў госці, і падчас Алімпіяды здаваў пробу.

**– Як на радзіме сустракалі героя?**

– Найперш мяне чакалі жонка і паўтарагадовая дачка. Дарэчы, фінальныя спаборніцтвы з маім удзелам праходзілі па беларускім часе ноччу, але дачка не спала. А калі дакладней, балелі за мяне так, што і дачушку разбудзілі.

**– Зараз – адпачынак?**

– Так, ёсць крыху вольнага часу. Можа быць, "навострым лыжы" з сямействам куды-небудзь на цёплае мора. Кажуць, салёная вада добра траўмы зажыўляе.

**– На сямейным савеце ўжо вызначыліся, куды будзеце ўкладваць прызавыя грошы (*75 тысяч долараў. – Аўт.*) за Алімпіяду?**

– Спачатку іх яшчэ атрымаць трэба, а затым ужо нешта вырашаць.

**Алесь СІВЫ.**

КНИЖНЫЙ УГОЛ

## Посол, влюбленный в Беларусь





За время белорусской суверенности у нас сменилось, ежели не ошибаюсь, пять (или все-таки шесть?) польских послов. Все они были, разумеется, людьми разными, по-разному запомнились нам. Но при имени Эльжбеты Смулковой лицо каждого встречавшегося с ней белоруса осветит добрая улыбка.

*Гэты цуд – толькі сродак?.. ці мэта?..*
*Палітычны разлік – альбо лёс?..*
*Гэта ведае толькі Хрыстос*
*Тайну гжэчнае пані Альжбеты…*

Эти написанные в 1992 г. строки Олега Бембеля (Зьніча) поставил эпиграфом к своей книге **"Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні"** Валер Калиновский, журналист Белорусской службы Радио Свобода. И вот спустя много лет эта тайна, можно сказать, раскрывается. Собственно, никакой тайны особой нет. Душа пани Эльжбеты – в ее биографии, в том, что она пережила, видела своими глазами. А пережить и видеть довелось много. На глазах восьмилетней Эльжуни в 1940 г. во Львове "органы" арестовали ее отца, инженера-лесника Казимежа Барана. Только спустя полвека появилось предположение, что он вместе с другими польскими чиновниками и военными был тогда же расстрелян в Быковне, киевском аналоге белорусских Куропат. А сама Эльжуня вместе с матерью и сестрой была выслана в Сибирь. Новосибирская область, поселок Усть-Сильга, места, приравненные к районам Крайнего Севера. Только через пять лет Янина Баранова вместе с дочерьми вернулась на родину.

Потом была учеба на отделении польской филологии Торуньского университета имени Коперника. И здесь начал проявляться интерес юной Смулковой к белорусистике. Заведующая кафедрой польского языка, знаменитый лингвист, диалектолог Галина Турская заметила способную студентку и предложила ей заняться польско-белорусскими языковыми связями на примере говоров Белостотчины. Магистерская работа Эльжбеты Смулковой была посвящена влиянию белорусского языка на польский. А в 1956 г. молодая исследовательница переходит на кафедру белорусской филологии Варшавского университета, возглавляемую основательницей польской белорусистики Антониной Обрембской-Яблоньской. Начинается ее многолетнее участие в диалектологических экспедициях, где был собран уникальный языковой материал, свидетельствовавший о многообразии и богатстве белорусских говоров восточной Польши, польско-белорусского языкового пограничья.

В 1959 г. Э.Смулкова впервые приехала в Беларусь, на стажировку в академический Институт языкознания. Ее буквально захватили царившие там творческая атмосфера и благожелательность к молодому ученому из Польши. Особое волнение испытывала она, выезжая совместно с белорусскими учеными в народную глубинку страны. Нужно было спешить. Уходили из жизни старые люди, хранители народных языковых сокровищ. И они ездили, разговаривали, записывали… Эта, скажем так, погруженность в Беларусь, безусловно, способствовала тому, что впоследствии Эльжбета Смулкова, уже как наследница и ученица профессора Обрембской-Яблоньской, возглавила кафедру белорусской филологии Варшавского университета, а спустя годы встала во главе созданной по инициативе замечательного гуманиста и уроженца Минска Ежи Гедройца кафедры белорусской культуры Белостокского университета. Эти годы были заполнены неустанным трудом, выходом замечательных трудов профессора Смулковой, принесших ей славу глубокого знатока белорусского языка и, следовательно, истории и культуры нашего народа.

Несомненно, это обстоятельство сыграло решающую роль, когда в конце 1992 г. Эльжбета Смулкова была назначена первым послом новой, демократической Польши в суверенной Беларуси. В этот период оживились ее старые белорусские связи, появились новые друзья, среди которых, естественно, было немало выдающихся белорусских филологов, деятелей культуры. Обо всем этом В.Калиновский рассказывает в своей книге с массой интересных подробностей, свидетельствующих, как быстро шло в тот период (первая половина 1990-х гг.) сближение Беларуси и Польши. И не посла Смулковой вина в том, что вскоре началось в белорусско-польских отношениях охлаждение. Пани Эльжбета, и закончив свою официальную дипломатическую миссию в Беларуси, продолжает оставаться послом беларушчыны в Польше. Все, кому в Польше дорого белорусское слово, белорусская культура, знают, что всегда встретят поддержку и понимание у пани Эльжбеты, истинного друга Беларуси, тонкого, мудрого, доброжелательного человека. И, безусловно, обаятельной женщины.

Книга В.Калиновского, приуроченная к 85-летию Эльжбеты Смулковой, это не только ее биография, насыщенная богатым документальным материалом. Это безусловный вклад в современную историю белорусско-польских культурных связей, еще один мостик – и заметный, – укрепляющий давнюю и богатую историю взаимоотношений народов Беларуси и Польши.

**Семен БУКЧИН.**

РЭГІЁН

## Фотапасткі на... сметніках

Камунальнікі многіх беларускіх гарадоў дагэтуль змагаюцца з нядобрасумленнымі грамадзянамі, якія пакідаюць смецце каля кантэйнерных пляцовак. Эфектыўны сродак барацьбы з гэтай з'явай вынайшлі іх калегі з горада Талачын, што на Віцебшчыне.

Мясцовыя камунальнікі сталі ўсталёўваць каля сметніц фотапасткі. Папярэдне адпаведныя службы размясцілі па горадзе аб'явы і далі інфармацыю ў раённай газеце. Дзве пасткі знаходзяцца на адным месцы два-тры дні, а потым іх пераносяць у іншую частку Талачына.

Аднаму парушальніку ўжо выпісалі штраф у памеры 105 рублёў, другому – папярэджанне, асобы яшчэ дзевяці чалавек высвятляюцца. Паводле дадзеных талачынскіх камунальнікаў, пасля з'яўлення фотапастак грамадзяне сталі часцей замаўляць транспарт для вывазу буйнагабарытнага смецця.

**Васіль СТАСЕВІЧ.**

УСТАЦЬ У ШЫХТ!

## Жанчыны на мяжы

*У Беларусі пачалі рыхтаваць жанчын-памежніц*

З гэтага навучальнага года ў Інстытут памежнай службы ўпершыню сталі набіраць дзяўчат ва ўзросце ад 17 да 21 года. На спецыяльнасць "Кіраванне падраздзяленнямі памежнага кантролю" (гаворка пра працу ў пунктах пропуску) набіралі 20 чалавек. Конкурс склаў 5 чалавек на месца. Курс маладога байца дзяўчаты праходзяць у навучальным цэнтры Інстытута памежнай службы пад Смаргонню.

Як патлумачылі "Народнай Волі" ў прыёмнай камісіі Інстытута памежнай службы, адразу пасля паступлення дзяўчаты падпісалі кантракты. Гэты дакумент прадвызначыць іх будучыню на дзевяць гадоў: чатыры гады вучобы і пяць гадоў службы, якую яны пачнуць з лейтэнанцкімі пагонамі.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

НУ І НУ!

## Шукаецца двайнік Манюшкі!

Арганізатары фестывалю "Класіка ля Ратушы з velcom", на якім прагучыць музыка кампазітара **Станіслава Манюшкі**, аб'явілі конкурс. Яны шукаюць чалавека, які будзе максімальна падобны на айчыннага класіка, якога за талент называлі беларускім Моцартам.

Пераможца конкурсу возьме ўдзел у адкрыцці помніка Манюшку і пісьменніку Дуніну-Марцінкевічу, а таксама распачне баль у гонар кампазітара, які адбудзецца 3 верасня ля сталічнай Ратушы. Адным з арганізатараў і, што не менш важна, спонсарам конкурсу выступіла турыстычная кампанія "Віаполь". Ад яе "Манюшка XXI стагоддзя" атрымае ў падарунак двухдзённы тур "Ліда–Гродна–Каробчыцы" на дзве персоны.

**Вадзім БРОННІКАЎ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 30 ЖНІЎНЯ 2016 г.

РАССЛЕДОВАНИЕ

## Убийство Павла Шеремета: что известно спустя месяц?

*До сих пор нет четкой ясности, каковы мотивы убийства, невнятна основная версия следствия. Зато уже завелся «крот»*



Минуло 40 дней после взрыва в центре Киева автомобиля «Субару», за рулем которого сидел Павел Шеремет. Украинские власти уверяют, что делают все возможное для расследования резонансного преступления: работают лучшие специалисты розыскного дела, отозванные с пенсии, и даже агенты ФБР.

Между тем в публичном поле появляется минимум информации о деле. Правоохранители и власти явно говорят о нем крайне скупо и неохотно.

«С утра мы заслушивали новые детали. Я не могу сказать, что есть большой прорыв. Конечно, есть огромная рутинная работа, которую мы выполняем. Я категорически против того, чтобы детали расследования разглашали, кто бы это ни был – ГПУ или кто-то другой. Это вредит расследованию», – сказала недавно глава Национальной полиции **Хатия Деканоидзе.**

И все же что прояснилось спустя месяц после убийства Павла Шеремета и на какие вопросы до сих пор не получены ответы?

### На первых порах следствие было дезориентировано

Подрыв машины Шеремета произошел в очень неблагоприятный момент. По результатам люстрации и переаттестации в полиции возник дефицит профессиональных следователей и оперативников, которые могли качественно осмотреть место происшествия, зафиксировать следы преступления, вычленить нужных свидетелей и результативно их допросить, наконец составить грамотный план дальнейшего расследования, на который опирается любое более-менее сложное дело. Даже провластные политики это признали. Как заявлял отставной генерал милиции и нынешний губернатор Закарпатской области **Геннадий Москаль,** *«Хатия Деканоидзе видела преступников разве что в фильме «Место встречи изменить нельзя» и вряд ли способна организовать расследование на должном уровне»*.

Вопиющий непрофессионализм подтверждается тем, что спустя несколько дней на месте происшествия эксперты работали уже после того, как прошел дождь, протопали сотни пешеходов и проехало множество автомобилей. Пренебрежительное отношение к расследованию на первых порах демонстрировал и глава МВД Арсен Аваков, который даже не соизволил прервать свой отпуск и прибыть в Киев. Даже генпрокурор Юрий Луценко признал, что к расследованию необходимо подключать старых профессионалов, и заговорил о возвращении в полицию лучшего розыскника МВД – отставного генерала Василия Паскала, которого ранее с позором изгнали под давлением «активистов и общественности» как «донецкого кадра Януковича».

### Среди следователей завелся «крот»

Когда расследование более-менее раскачалось и пошло вперед, возникла иная проблема, которая была в правоохранительных органах всегда, но еще никогда не проявлялась настолько отчетливо. Не успели оперативники изъять террабайты записей уличных видеокамер и составить протоколы осмотра полезных видеозаписей, чтобы вычленить нужные кадры, как специально обработанный видеоролик – строго конфиденциальный – появился в распоряжении журналистов.

С одной стороны, радует, что у нас настолько поднялась планка профессионализма журналистов-расследователей, раз они молниеносно достают видео – еще до того, как его распространили среди розыскников Киева. С другой – печально, что «кроты» сливают критически важную информацию еще до того, как она была реализована, тем самым давая преступникам полный расклад действий следствия, направленных на их задержание.

После этого слива проявилась вопиющая несогласованность действий МВД и прокуратуры. Советник главы МВД Иван Варченко заявил, что ролик якобы специально передали журналистам, чтобы побольше людей его просмотрели и смогли опознать киллеров. А генпрокурор Юрий Луценко, наоборот, возмутился и пообещал с позором изгнать из правоохранительных органов людей, которые слили эту тайную информацию.

Из-за такой нестыковки в заявлениях внешний наблюдатель мог бы сделать вывод, что видео сознательно «слила» полиция с ведома своего руководства.

Впрочем, кто же все-таки этот «слив» произвел на самом деле, служебное расследование так и не установило по одной простой причине: круг людей, которые имеют доступ к материалам расследования, настолько расширился, что только проверка на полиграфе может занять несколько месяцев, чего следователи себе позволить не могут. Ведь следственная группа в это время была бы демотивирована и обескровлена.

### Убийство было выполнено профессиональными киллерами

По видеоролику, который появился благодаря «кротам» в открытом доступе, стало понятно, что подготовку и реализацию этого преступления осуществляли профессионалы на высоком техническом уровне. Судя по видео, это мужчина и женщина, которые, согласно правилам конспирации, разделились. Были проведены и подготовительные мероприятия. Как вспоминали знакомые Шеремета, место, где обычно парковали автомобиль «Субару», было занято каким-то подозрительным бусиком, который после выполнения парковки «Субару» сразу же уехал. Взрывное устройство переносила женщина в сумке, она, конечно, вызывала меньше подозрений, чем мужчина.

В обусловленное время женщина поднесла пакет ко двору Шеремета, где ее страховал мужчина. Киллер мужского пола также применял конспирацию – притворялся выпившим, праздно шатающимся гражданином. Крепление взрывчатки под днищем машины непосредственно возле водительского места «Субару» занималась женщина после того, как сообщник одним движением тщательно протер низ автомобиля, чтобы пыль не помешала примагничиванию, и парочка тут же ретировалась. На видеозаписях можно рассмотреть очертания киллеров, но невозможно разглядеть черты их лиц. Такое поведение убийц указывает на знание дела, «народные мстители» так себя не ведут.

### Убить хотели именно Шеремета

В первые дни после убийства тщательно муссировалась версия, что бомба предназначалась не Павлу Шеремету, а совладелице «Украинской правды» Алене Притуле. На это косвенно указывало то, что автомобиль «Субару» принадлежал именно Притуле. Более того, друзья Шеремета и Алены утверждают, что за журналистами с начала весны велась слежка. Из-за этого Алена Притула не отвечала на звонки с неизвестных номеров. Этот факт напрочь отметает версию, что взорвать планировали Притулу, – ведь за такой длительный срок можно было выучить распорядок дня и привычки настолько, что отработать убийство можно было в автоматическом режиме.

Если киллеры причастны к этой слежке, значит, они наверняка видели, что в автомобиль сел не тот объект, и преступление было бы отсрочено. А так как этого не случилось, то все-таки бомба предназначалась именно Павлу Шеремету. Тем более что он изо дня в день ездил именно по этому маршруту на этой же машине.

### Спасти журналиста было невозможно

На первых порах распространялись слухи, будто «скорая» приехала слишком поздно, прохожие слонялись и не помогали высвободить еще живого Павла Шеремета из горящего автомобиля. Как отмечают специалисты-взрывотехники, даже несколько сот граммов тротила способны на открытом пространстве перебить железнодорожные рельсы.

В случае с убийством Шеремета, по предварительным подсчетам, взрывчатки было не менее 400 граммов, к тому же взрыв был направленным, концентрированным на водительское место. На условиях анонимности медики, работающие в сфере медицины катастроф, говорят, что шансов на выживание после такого взрыва у журналиста не было, даже если бы рядом дежурил вертолет санавиации. Ведь травмы, полученные после детонации адской машины, были несовместимы с жизнью.

### Мотивы убийства

При расследовании любого убийства в качестве конструктивных элементов состава преступления следствию необходимо установить мотивы и цель совершения преступления. Вот здесь как раз возникает проблема. К примеру, для российских властей Павел Шеремет хоть и ассоциировался с Борисом Немцовым и оппозицией, однако практически не бывал в РФ и, постоянно живя в Украине, фактически стал безвредным. То же самое касается и действующих властей в Украине. Шеремет, по отзывам друзей и знакомых, благодаря врожденной коммуникабельности поддерживал одинаково хорошие отношения с политиками из разных лагерей, поэтому сложно, практически невозможно, представить зачем кому-то из властей предержащих из Украины заказывать его убийство.

Одной из немногих зацепок является последний блог Шеремета, в котором он писал о нарастающих противоречиях между силовиками, подконтрольными президенту, и силовиками, подконтрольными Авакову. Один из друзей Павла в день убийства сказал, что именно в этом блоге ключ к разгадке мотивов преступления. Правда, в чем мотив – не совсем понятно. Авакову не понравилось, что Шеремет осудил действия близкого к нему депутата Дейдея, который вместе с бойцами в камуфляже давил на суд? Президенту не понравилось, что Шеремет слишком тепло отозвался об «Азове» и его командире Билецком, который сейчас начинает собственный политический проект с жесткой критикой Порошенко?

Еще один подозрительный момент – информационная кампания, которую ведет в последнее время против «Украинской правды» целый ряд блогеров, ориентированных и на президента, и на Народный фронт с Аваковым. Алена Притула в своем первом блоге после смерти Павла Шеремета даже вспомнила об одном из таких блогеров – Сергее Иванове, назвав его подонком. Самого Иванова, кстати, на днях допросили по делу об убийстве. Но установлена ли следствием связь между пиар-кампанией против «Украинской правды» и убийством Шеремета – пока не сообщается.

Также обсуждается версия убийства с целью «подставы». То есть у кого-то незадолго до убийства появились некие документальные свидетельства действий, которые совершает (или планирует совершить) некто против Шеремета или «Украинской правды» (вроде слов Кучмы о Гонгадзе на пленках Мельниченко). И под эти свидетельства убивают Шеремета, чтобы потом означенные выше документы обнародовать.

Но, повторимся, все это курсирует на уровне слухов и гипотетических предположений. Никаких конкретно фактов в пользу той или иной версии еще не предъявлено.

### Какова главная версия убийства журналиста?

Изначально было озвучено несколько главных версий, которые выдвинуло следствие. По словам советника министра МВД Зоряна Шкиряка, рассматриваются четыре версии убийства: «Базовых версий четыре, хотя в результате следствия могут возникать и другие, и над этим сейчас работают следственно-оперативные группы полиции и СБУ. Первая: профессиональная деятельность. Вторая, по моему глубокому убеждению, подкреплена более весомыми аргументами: российский след, то есть работа российских спецслужб. Третья: возможное покушение на Алену Притулу. И четвертая: личные мотивы, неприязненные отношения – в принципе, такая версия включается в список автоматически».

На сегодняшний день так и не ясно до конца, какая же версия, по мнению правоохранителей, главная. Что косвенно говорит о том, что пока серьезных подвижек в деле нет.

### Следил ли за журналистом Троян?

В первый же день убийства всплыла информация, что за Шереметом была организована слежка под эгидой зама главы Нацполиции Вадима Трояна (человека, особо близкого к Авакову). Пикантности ситуации добавил тот факт, что в этот момент Троян был в отпуске и не соизволил из него выйти досрочно, чтобы объясниться, была ли слежка. Еще больше вопросов добавилось, когда Хатия Деканоидзе вместо того, чтобы сразу опровергнуть наличие слежки, заявила, что это установит служебное расследование.

Уже спустя несколько недель Троян вышел из отпуска и заявил, что негласные следственные мероприятия по отношению к Шеремету не проводились. Чуть позже МВД заявило, что проверка установила: незаконной слежки не велось. Впрочем, так как МВД, по сути, проверяло само себя (точнее, своего начальника), особого доверия это заявление не вызвало.

Вопрос по-прежнему открыт.

### Чем помогли агенты ФБР?

Изначально после убийства геннпрокурор Луценко сообщил, что кроме версии об убийстве за профессиональную деятельность в ГПУ рассматривают версию о дестабилизации ситуации в стране. В связи с этим он предложил усилить внимание к массовыми акциям в Киеве. «Не думаю, что мы должны что-то запрещать, но любые акции в ближайшее время должны организовываться с применением рамки металлоискателей». Также Луценко сказал, что тип взрывчатки уже установлен и в этом помогли агенты ФБР. Однако до сих пор не понятно, какой процессуальный статус у иностранцев в Украине и насколько допустимо будет использование добытых ими сведений. На данный момент совершенно не понятно, что же все таки раскопали агенты ФБР, если личности киллеров устанавливают сотрудники управлений полиции Киева, показывая киевлянам некачественные стоп-кадры с видео.

Глава Службы безопасности Василий Грицак на совещании с Порошенко заверял, что силовые структуры привлекли к следственным действиям лучших специалистов. «У нас есть база данных применения самодельных взрывных устройств. Рассчитываем на помощь и консультативную, и практическую иностранных партнеров», – отмечал Грицак. Однако пока так и не известно, чем помогли следствию эти базы данных.

http://strana.ua/

ПАМЯЦЬ

## Боль не сціхае

Вось ужо і саракавіны па Паўлу Шарамету. І ўсе гэтыя дні не верыцца, што гэта здарылася: перад вачыма яго вобраз, добразычлівы позірк. Успамінаюцца самыя розныя нюансы нашых сустрэч, нейкіх падзей, мерапрыемстваў, на якіх пашчасціла перамовіцца, быць разам.

Калі Павел з'явіўся на беларускіх каналах у праграме "Праспект" і "Эканаміст", гэта стала падзеяй, таму што па тым часе гэта быў зусім іншы тыпаж журналіста: журналіст-суразмоўца, які спакойна, лагодна і добразычліва, робячы нечаканыя паўзы, думаў і прымушаў думаць нас, тэлегледачоў. Многія беларускія тэлевядучыя яго не ўспрынялі, таму што самі пайшлі па лёгкім шляху: і па сённяшні дзень многія, карыстаючыся тэлесуфлёрам, гавораць хутка, без унутранага перажывання, не вядуць дыялог з тэлегледачамі, як гэта рабіў Павел. На жаль, не вельмі часта на тэлебачанні нам даводзілася пры сустрэчах вітацца, усміхацца. І раптам даведваюся: абедзве яго праграмы выціснулі з эфіру.

Ужо калі працаваў на расійскім канале "ОРТ", Павел раз-пораз наведваў Беларусь, па-ранейшаму сачыў за нашым палітычным жыццём. Аднойчы арганізаваў канцэрт "Рок за свабоду" з удзелам расійскага музыканта і спевака Вячаслава Бутусава. Улады дазволілі імпрэзу на плошчы Бангалор пры ўмове, што на сцэну не выйдуць апальныя гурты "Палац", "Нейра Дзюбель", "Крама", спявак Зміцер Вайцюшкевіч. І вось што прыдумаў Павел: каб перад пачаткам канцэрта разам з шэрагам нашых палітыкаў я выйшла на сцэну і сказала некалькі слоў пра Беларусь. Хадзіла, думала, хвалявалася, што сказаць.

Прыехала, прабілася да сцэны. Першае ўражанне: моладзь ідзе ды ідзе, мноства міліцыянтаў. Павел папярэдзіў, каб была гатова да выступлення ў любую хвіліну. Нікога з выступоўцаў не было бачна. І толькі пад'ехаў мікрааўтобус з Бутусавым – я і войкнуць не паспела, як узляцела на сцэну з дапамогай Паўла. Ён яшчэ паспеў крыкнуць: "Ваша выступленне чацвёртае, пачынайце без паўзы!"

Тым часам беларускія музыканты сказалі па некалькі слоў і – мая чарга. Прачытала тры чатырохрадкоўі пра Беларусь. Памятаю апошняе:

*Адчыніць гатовы дзверы*
*І на захад, і на ўсход,*
*Бо жыцця і лепшай долі*
*Ўсё чакае наш народ.*

– Калі вас сабрала гэтая плошча з удзелам Вячаслава Бутусава, – перайшла я на прозу, – вы падтрымліваеце акцыю "Рок за свабоду".

– Так! – грымнуў натоўп.

– Вы за тое, каб наша Беларусь была вольнай, незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай?

– Так! – разнёсся дружны кліч тысячаў маладых суайчыннікаў.

– Тады – жыве Беларусь!

– Жыве! – на ўсю моц выгукнула шматтысячная плошча.

Я была так уражана гэтым эмацыянальным выбухам, што не заўважыла, як ізноў апынулася на руках Паўла Шарамета. Ён асцярожна паставіў мяне на зямлю. Трэба было хутчэй выбірацца з натоўпу, бо ўжо чуліся крыкі адказных за парадак чыноў: "Хто дазволіў? Адкуль яна ўзялася? На сцэну нікога не пускаць!"

Тым часам Анатоля Лябедзьку, Валерыя Фралова, Сяргея Калякіна, пагражаючы, адціскалі ад сцэны. Дагэтуль не разумею, як Паўлу ўдалося ўсё пралічыць, зарыентавацца і зрабіць так, каб я паспела прамовіць свае словы.

Ніколі не забуду, як частавала ў сябе дома Паўла Шарамета і Святлану Калінкіну смажанымі ў кляры грыбамі-парасончыкамі. І як, смакуючы і смеючыся, ён па-дзіцячаму захапляўся пачастункам, імкнучыся адгадаць: з чаго ж гэта прыгатавана – мяса птушкі ці труса?

Гэта Павел пазнаёміў мяне і майго мужа з Барысам Нямцовым. Мы паехалі ў Маскву на сустрэчу з прадстаўнікамі дэмакратычных колаў Расіі. На Беларускім вакзале нас сустракаў Павел. І калі мы выехалі з прывакзальнай плошчы, ён раптам прапанаваў: "У нас яшчэ ёсць час. Заедзем да Барыса Нямцова?" Божа, гэта была такая нечаканая і такая радасная сустрэча! Мне падалося, што вялікая зала ў доме гаспадара стала цеснай для гэтых двух вялікіх і прыгожых мужчын. Адразу адчулася, што яны сябры: задавалі нам пытанні і адначасова абменьваліся ўражаннямі, жартавалі.

Знешне яны былі вельмі розныя, і адначасова было такое падабенства паміж імі: абодва валодалі выключнай харызмай, пачуццём гумару, нейкай прыцягальнай моцай і даверлівасцю позірку. Даведаўшыся, што мы не былі яшчэ ў храме Хрыста Збаўцы, арганізавалі нам яго наведванне. Тады не было ніякага прадчування велізарнай трагедыі, непапраўнай страты для Беларусі, Украіны і Расіі.

У той дзень, калі грымнуў страшэнны выбух у цэнтры Кіева, з самага ранку і да позняй ночы, і ў наступны дзень амаль усе асноўныя тэлеканалы Украіны (у адрозненне ад беларускіх) вялі праграмы пра Паўла Шарамета. Колькі цікавых фактаў, колькі людзей выказваліся пра слыннага сына Беларусі! Не забуду словы маладога ўкраінца: "У Беларусі Шарамет адседзеў у турме, з Расіі яго выціскалі як маглі, а ва Украіне яго забілі".

Калі ішла на развітанне ў храм Усіх Святых, перад вачыма праходзілі тэлекадры развітання ва Украіне. Гэта там, а ў нас... Скажу шчыра, хвалявалася: лета, субота, лецішчы… Дый урэшце беларусы прыйсці пабаяцца… І заплакала ад палёгкі, калі ўбачыла бясконцы ланцужок людзей з кветкамі. І, колькі там была, ён не памяншаўся.

Дзякуй вам, людзі, што разумееце, якая трагедыя здарылася на самай справе і што трэба рабіць, каб нашы дзеці і ўнукі не патрапілі ў горан той страшнай вайны, ўжо грукаючай ў нашы дзверы!

**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі.**

